У нумары: Шукайма сябра | Музей пад страхой | Страшная адплата


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (465) | ГОД X | 24 СТУДЗЕНЯ 1965 Г. | ЦАНА 60 гр.


## ВЫКАРЫСТАННЕ РЭЗЕРВАЎ — ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА

12 і 13 студзеня г.г. адбылася ў Беластоку X Ваяводская справаздачна - выбарчая канферэнцыя Польскай аб'яднанай рабочай партыі. На канферэнцыі ўдзельнічала 253 дэлегаты, якія прадстаўлялі 43,5-тысячную партыйную арганізацыю Беласточчыны. У канферэнцыі ўдзельнічалі таксама сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Віха і віцэпрэм'ер Юльян Такарскі.

З уводным дакладам выступіў І-шы сакратар ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч (Справаздачныя матэрыялы дэлегаты атрымалі раней). Ён сцвердзіў, што беластоцкая партыйная арганізацыя прыйшла на Канферэнцыю з сур'ёзнымі дасягненнямі. Перш за ўсё, падняўся аўтарытэт партыі. Доказам гэтага — 13 тысяч кандыдатаў, якія на працягу трох год павялічылі партыйныя рады.

— Наша Канферэнцыя, — сказаў А. Лашэвіч, — адбываецца пасля IV З'езда партыі. Яе асноўным заданнем, побач выбару новых улад, з'яўляецца выпрацаванне галоўных напрамкаў і канкрэтных прапаноў, якія вызначаць спосаб рэалізацыі пастаноў IV З'езда партыі нашай партыйнай арганізацыяй і пад яе кіраўніцтвам усім грамадствам Беласточчыны.

Абмяркоўваючы ўдзел грамадства Беласточчыны ў дыскусіі над тэзісамі і пастановамі IV З'езда партыі, тав. Лашэвіч падкрэсліў актыўнасць мас. У гэтым перыядзе было высунута 3 тысячы прапаноў. І-шы сакратар звярнуў тут увагу, што рэалізацыя гэтых пастаноў была розная. Гаспадарчыя справы сістэматычна ацэньваліся на сходах ПОП, пасяджэннях завадскіх і грамадскіх камітэтаў партыі, а таксама на пасяджэннях бюро павятовых камітэтаў. Да прапаноў, якія тычыліся міжлюдскіх суадносін, стылю і метадаў працы ўстаноў, функцыяніравання грамадскіх радаў і гаспадарчых арганізацый партыйныя інстанцыі і арганізацыі аднесліся як да спраў другарадных.

Як у дакладзе, так і ў дыскусіі шмат увагі было прысвечана інвестыцыям. Падкрэслівалася, што ў справаздачным перыядзе ў выніку невыканання будаўніча - мантажных работ, ваяводства страціла сур'ёзныя грашовыя сумы. Як добры прыклад выкарыстання інвестыцыйных сродкаў ставіліся меліярацыйныя і электрыфікацыйныя прадпрыемствы, якія перавыконвалі свае заданні.

Найбольшую, аднак, увагу звярнулі дыскутанты сельскагаспадарчым пытанням, выкарыстанню рэзерваў. Напрыклад І-шы сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Міхал Нядзведзь расказаў аб новым шляху выкарыстання гэтых рэзерваў, які адкрыта на Гайнаўшчыне, менавіта: у некаль-

(Працяг на стар. 2)

**ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН**

* * *

Мы дома песень менш знаходзім,
У далеч шлях кіруем свой.
На поўнач едзем і на поўдзень,
Бліжэй да кедраў і секвой.

А там, дзе першы крок рабілі,
Дзе нашы мацеркі жывуць,
Растуць бярозы і рабіны
І лісце падае ў траву.

Ды мы наіўна прывыкаем,
Што нам спатрэбіцца пасля
Прашытая баравікамі,
Смалой прапахлая зямля.

Шукаем сцежак невядомых,
Чужыя топчам бальшакі,
А песні нас чакаюць дома,
Ля цёплай матчынай шчакі.



У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ. Фота Л. Майсеюк

## ПРА САМАСТОЙНАСЦЬ І ДРУГІЯ СПРАВЫ



Кіраўнік гарбарні, Усевалад Анісімовіч.

Два гады таму назад, у нумары 293 «Нівы» быў надрукаваны артыкул — «Звольнілі і... што далей?» Пісалася аб нездаровай атмасферы ў гарбарні ў Крынках, Сакольскага павета. Кіраўнікі гарбарні змяняліся адзін за другім. Камісія, спецыяльна створаная для разгледжання нездаровай сітуацыі ў гарбарні, запрапанавала новага кандыдата на кіраўніка гарбарні, Мікалая Валошына. Камісія дала яму ідэальную характарыстыку. Здавалася, у гарбарні запануе рай.

Замест раю гарбарня перажыла пекла. Сцяліся тры амбіцыі: амбіцыя кіраўніка Мікалая Валошына, амбіцыя сакратара партыйнай арганізацыі Мікалая Носкі і амбіцыя старшыні прафсаюзнай арганізацыі Бернарда Гэльмана. Кожную з гэтых амбіцый мы апісалі ў артыкуле, быў гэта паядынак аргументамі. Рэзультат паядынку быў такі, што Мікалай Валошын перастаў быць кіраўніком, Мікалай Носка перастаў быць першым сакратаром партыйнай арганізацыі. Бернард Гэльман перастаў быць старшынёю прафсаюзнай арганізацыі.

Новы кіраўнік, Усевалад Анісімовіч, асоба папулярная ў Крынках. Ён, як кажуць, паставіў на ногі культурна-асветнае жыццё ў мястэчку, паклапаціўся аб святліцу, зацікавіў людзей светам. Ён верыць людзям, а людзі яму. Гэта рыса характару чыніць з яго кіраўніка новага тыпу, кіраўніка, які выхоўвае рабочых і вучыцца ад рабочых.

У крынкаўскай гарбарні адчуваецца нараджэнне еднасці, нараджэнне дружнай сям'і гарбароў. Але нішто не родзіцца лёгка. Патрэбны спакой і вялікая разважлівасць. Першы сакратар партыйнай арганізацыі Іван Саланевіч слушна лічыць, што спешлівасць і нервовасць, гэта кепскія дарадчыкі. Партыйныя людзі могуць і павінны адыграць рашаючую ролю ў стабілізацыі фабрычнага калектыву, тым больш, што членамі партыі з'яўляецца амаль с о р а к працэнтаў рабочых. Неабходна выпрацоўваць пачуццё адказнасці за справы і лёс роднай фабрыкі, дабіцца самастойнасці дзеяння, перамагаць нездаровую і зманлівую тэндэнцыю аглядак на партыйны камітэт, беганіны з абы глупствам.

Гэта няспешлівасць Саланевіча часамі нервуе, часамі хацелася б бачыць яго ў ролі безапеляцыйнага вырашальніка той ці другой справы.

Такую новую сітуацыю ў гарбарні асабліва востра адчувае рада прафсаюзнай арганізацыі і яе старшыня Алег Анісімовіч. Цэлая маса спраў — вялікіх і дробных — іншы раз даводзіць да апатыі, нападае бяссільнасць. Здаецца, няма выйсця! Рада шукае супрацоўніцтва і помачы з боку экзекутывы партыйнай арганізацыі. І слушна. Але ўсё тое найбольш слушнае, што робіцца ў меру. Супрацоўніцтва, помач экзекутывы партарганізацыі не можа і не павінна перарадзіцца ў звычайную выручку або — што горш — у падмену ролі і функцый рады прафсаюзнай арганізацыі.

Рада добра здае экзамен сваёй жыццяздольнасці, спраўнасці. Дзякуючы ёй рабочыя атрымалі службовае адзенне, каля дваццаці чалавек атрымала авансы ў групе, цяпер ідзе малая вайна за аптэчкі з лекамі першай дапамогі. Гарбары атрымоўваюць малако, але рада лічыць, што яго прывоз вырашаны нешчасліва. Замест наняць для прывозу пабочную асобу, малако прывозяць па чарзе самыя рабочыя, якіх адрываецца ад прадукцыі.

Нямалаважнай праблемай у гарбарні з'яўляецца недахоп адпаведных складаў для хімікатаў, лою і інш. Амаль усё ляжыць пад голым небам — сыпле снег, лье дождж.

(Працяг на стар. 4)




Ю. Геніюш: ЦІ ЁСЦЬ СЯБРЫ НА СВЕЦЕ?

К. Янкоўскі: БЕЛЬСКАЯ РАШАРНЯ АЧУНЯЛА.

В. Рудчык: ЧЫМ МЫ БАГАТЫ?

С. Яновіч: ЭХ, ТЫ, НАШ ЛЕС.

М. Красоўскі: ПАЛЕМІКА.

 

# Супроць таго, каб забыць злачынствы

9 мая мы будзем адзначаць дваццатую гадавіну заканчэння II сусветнай вайны, дваццатую гадавіну расправы чалавецтва з гітлераўскім фашызмам. Па-свойму збіраецца адзначыць гэтую гадавіну ўрад Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. На 9 мая гэты ўрад падрыхтаваў праект пастановы аб прадаўненні ваенных злачынстваў, нанесеных чалавецтву шматтысячным апаратам гітлераўскага тэрору. Зацвярджэнне Бундэстагам гэтай пастановы было б актам ласкі для некалькіх дзесяткаў злачынцаў, якія хаваюцца цяпер у розных ціхіх месцах і на сумленні якіх ляжыць смерць мільёнаў людзей.

Праект названай пастановы, незалежна ад таго, будзе яна прынята ці не, кідае моцнае святло на палітычныя тэндэнцыі бонскага ўрада. Урад ФРГ, на гэты раз пад маркай гуманнага права, хоча фармальна вярнуць да грамадства і публічнага жыцця тых людзей, для якіх жыццёвым ідэалам было таптанне ўсялякіх праў чалавека.

Зразумела, што рашэнне бонскіх улад было прынята з абурэннем, прычым, не толькі непасрэдных ахвяр фашызму, але і ўсіх тых, хто ведае велічыню злачынства, зробленага гітлераўцамі за перыяд II сусветнай вайны. Варта звярнуць увагу на тое, што крытычныя галасы даходзяць і з ФРГ. На днях я атрымаў выданую ў Мюнхене кніжку «СС у крыжовым агні пытанняў», напісаную вядомым юрыстам драм Робертам Кемпнерам. Як месца, дзе была выдана кніжка (Мюнхен, быў калыбеллю гітлерызму), так і асоба аўтара варты кароткага каментарыя.

Др Кемпнер з'яўляецца антыфашыстам. У перыяд Веймарскай Рэспублікі ён быў праўным саветнікам міністэрства ўнутраных спраў у Берліне. На гэтай пасадзе ў 1931 годзе ён патрабаваў аддаць Гітлера пад суд за здраду дзяржавы і выслаць яго за граніцу як небяспечнага чужаземца (Гітлер меў тады яшчэ аўстрыйскае грамадзянства) і распусціць яго партыю. Вядома, гітлераўцы потым не даравалі яму гэтага. Адразу, як толькі дарваліся да ўлады, ужо ў 1933 годзе арыштавалі дра Кемпнера. Толькі дзякуючы старым сябрам, якія засталіся тады яшчэ на сваіх пасадах, Кемпнеру ўдалося пазбегчы смерці і ўцячы ў ЗША.

Пасля вайны др Кемпнер як знаўца ўнутраных адносін быў накіраваны на Нарымбергскі працэс спачатку памочнікам, а потым намеснікам пракурора ЗША. Удзельнічаў у 12 наступных працэсах супроць ваенных злачынцаў ў 1946—49 гадах і тады ж дапытаў некалькі тысяч розных людзей. Выданая цяпер кніжка прадстаўляе сабой якраз стэнаграмы гэтых допытаў і высненне многіх выдадзеных у Нарымберзе прыгавораў. Кніжка прыгнятаючая і адначасова павучальная. У ёй Кемпнер проста сцвярджае:

«Яшчэ да гэтага часу не адпомшчаны шматлікія злачынствы СС. На падставе прыгавораў з Нарымберга расстраляны толькі пяць высокіх кіраўнікоў СС і сем лекараў». Да гэтага ліку Кемпнер дадае яшчэ генерала СС Кальтэнбрунера, павешанага па прыгавору Міжнароднага ваеннага трыбунала ў Нарымберзе. Мы можам яшчэ дадаць Айхмана, Франка і яшчэ некалькі менш знаных асоб Трэцяга Райху, прыгавораных трыбуналамі розных краін. Справа аднак у тым, — аб чым таксама гаворыць Кемпнер, — што велізарная колькасць афіцэраў СС высокага рангу наогул не стаяла перад судом або атрымала права ласкі ад амерыканцаў у першы перыяд т. зв. халоднай вайны. Гэтая ласка азначала тады жэст прымірэння з «новай» Германіяй.

Каштоўнасць публікацыі дра Кемпнера заключаецца ў першую чаргу ў тым, што на падставе багатага фотаматэрыяла, так як і многія юрысты, ён даходзіць да наступнага вываду: «Гэтыя злачынствы ніколі не павінны быць прадаўнены і забыты. Яны заклікаюць кожнага чалавека да чуйнасці ў адносінах да клік і арганізацый, якія могуць прадаць краіну».

Гэтыя словы з кніжкі Кемпнера сёння з'яўляюцца не толькі асцярогай, але і ацэнкай сённяшняга становішча ў ФРГ. Заходняя Германія сёння прадстаўляе сабой краіну, дзе нямала пастаноў урада выглядаюць так, як бы пісаліся пад дыктоўку фашыстаў і ваенных злачынцаў.

І добра, што гэтыя справы паказвае таксама і публікацыя, выданая ў самой ФРГ.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

ПАСЯДЖЭННЕ ПАЎДНЁВАВ'ЕТНАМСКАГА ЎРАДА.



СЛОВА МАЕ... ... ...?



Прэзідыум канферэнцыі. Выступае І-шы сакратар ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч.

# ВЫКАРЫСТАННЕ РЭЗЕРВАЎ — ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА

(Працяг са стар. 1)

кіх вёсках праводзіцца там цяпер эксперыментальная класіфікацыя грунтаў грамадскімі сродкамі (шырэй аб гэтым эксперыменце мы пісалі раней).

Выступіў таксама віцэ-прэм'ер Ю. Такарскі. Падкрэсліў ён дасягненні беластоцкай арганізацыі, якая ў апошніх гадах дабілася не малых вынікаў у палітычнай і арганізацыйнай дзейнасці. Сцвердзіў ён таксама, што на Беласточчыне асаблівую ўвагу трэба прысвяціць сельскай гаспадарцы.

На заканчэнне выступіў сакратар ЦК ПАРП Ул. Віха. Падкрэсліў ён мабілізуючую ролю IV З'езда ПАРП, вынікі чаго відаць і на Беласточчыне. Доказам — далейшы рост актыўнасці партыйных арганізацый і развіццё грамадскай ініцыятывы.

— Ва ўмовах Беласточчыны, — сказаў Ул. Віха, — дамінуючую ролю адыгрывае сельская гаспадарка. На гэту галіну гаспадаркі ў наступнай пяцігодцы Беласточчына атрымае два разы больш капіталаўкладанняў, чым у бягучай пяцігодцы. Стварае гэта вялікія магчымасці для прысьпяшэння тэмпу гаспадарчага развіцця ваяводства.

Гаворачы аб дыскусіі сакратар ЦК сцвердзіў, што паказала яна на сур'ёзныя рэзервы: лепшае выкарыстанне паш, агульнае прымяненне асноўных агратэхнічных захадаў. Выкарыстанне рэзерваў — галоўнае заданне партыйных арганізацый і інстанцый.

Канферэнцыя выбрала новыя партыйныя ўлады ваяводства. І сакратаром ВК ПАРП выбраны дагэтуляшні сакратар тав. А. Лашэвіч.

(рл)




Дэлегаты Гайнаўшчыны ў час пасяджэння.

Наша акцыя

# КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА У ГАРАДКУ

Падарунак Е. Латышонка з Эльблёнга

M. Olkiewicz — „Normandzka sieć", D. Kaczyńska, M. Wiśniewska — „Wilcza jama"; F. Welczar — „Szpieg Nazi Nr 176"; W. Kawalec — „Pięćdziesięciu z DOSSEL"; A. Braun — „Zwycięzcy znad Tatu-Ho"; G. Czekałowa — „Mau Mau"; S. Szymański — „Leśna Bitwa"; W. Sulewski — „Brow"; W. Ketlińska — „Blokada"; L. Moczulski — „Szosa Piotrkowska"; T. Twarogowski — „Zamach w Sarajewie"; W. Kulicki — „Zemsta Barona Grunlanda"; M. Kieta — „Kryptonim T-4"; T. Sokół — „Płonące wybrzeże"; D. J. Hope „Duchy dżungli"; M. Dunin-Wąsowicz — „Gauleiter nie dotrzymał słowa..."; Z. Wilamowski — „Operacja Biegun północny"; A. Sternfeld — „Sztuczny Księżyc"; D. Kaczyńska — „W ich oczach"; M. Brzezicki — „Agonia feldmarszałka"; S. Biskupski — „Ostatni bunkier"; J. i F. Bernasiowie — „Burza nad „Zieloną wyspą"; J. Lewandowski i S. Nadzin — „Kamienny krater"; B. Kassner — „Zagłada Luftwaffe"; T. Szafar — „Sabat morderców"; A. Perepeczko — „Korsarskie rajdy"; T. Hazler — „Budynki z żużlobetonu"; A. Konrad — „Brygada X"; D. Kaczyńska i M. Wiśniewska — „Królestwo Hansa Franka; R. Leliwa — „Zagadka Dunkierki"; W. Sulewski — „Dymy nad Zamojszczyzną"; L. Marschak — „Musa Dżalil"; J. i F. Bernasiowie — „Akcja „Miecz teutoński"; J. Nowak — „Podwodne kwadrygi"; „Samobójcze pojedynki"; Z. Wilamowski — „Reichstag w płomieniach"; J. Targalski — „Operacja „Otto"; W. Borowski „Antek" — „M—XIV"; J. Nowak — „Tirpitz" „Początek końca"; Z. Flisowski — „Ardeny"; J. Piwowoński — „Krym płonie"; J. Górski — „Śmietnik dr Schneidera"; T. Szafar — „Żołnierze obwodu V"; A. Perepeczko — „Samobójstwo tulońskiej eskadry"; J. Steward — „Kupione zwycięstwo"; F. Wierzbiński — „Warszawa nie odpowiada"; J. Bieniasz — „Pszczoły i trutnie"; W. Inber — „Oblężone miasto"; E. Planer „Grupa „Marco Polo"; B. Arct — „Ucieczki"; Mike W. Kerrigan — „Zamach na New York"; A. Stil „Pierwsze starcie";

Палеміка

# ШУКАЙМА СЯБРА...

«І кажуць нездарма — ніколі
Не будзем сябра знаць, пакуль
З ім гэткай вось сярдзітай солі
Не з'еў ты разам добры куль».
(Р. Барадулін)

Прачытаўшы дыскусійны артыкул Ул. Паўлючука «Мары аб свеце адзіноцтва» мне адно адразу кінулася ў вока. Сама постаць Дамяна са Старой Вёскі, вёскі сімвалічнай, як і сам яе герой. У яго шмат дзівацтваў. Ён далёкі ад людскіх спраў, ды баязлівы перад людскім вокам.

У Дамяна мала самаўпэўненасці, якая важна ў сталага мужчыны, ён дрыжыць перад вясковай апініяй, мабыць таму, што не прыпілі яму з дапамогай у выбары жонкі яго родныя. Жонка яго аказалася ліхой жонкай. Дамян рашыў вырачыся роднай вёскі, знаёмай ад маленства, ад калыскі. Ён не мае да яе бліжэйшых пачуццяў.

У горадзе ўсе яму незнаёмыя. Нават брат, родны брат. Дамян ведае толькі тое, што жыве ён тут. Дамян пераехаў з жонкай, і глядзіць надалей яна на яго злым вокам. І Дамяну здаецца, што няма дзе шукаць шчасця, калі нават жонка, з якой жыве, усё злосная, чужая яго сэрцу.

Дамян сустракае сяброў і на новым месцы. Але ён не мае блізкіх і добрых сяброў. А сябра — гэта адданы табе чалавек, які дзеліцца з табою сваімі жыццёвымі радасцямі, клопатамі і турботамі. «Сябры пазнаюцца ў бядзе», — гаворыць пагаворка. Але не толькі. Шчыры сябра, калі можа, дык у кожнай хвіліне табе дапаможа. Значыць, вельмі важную ролю ў сяброўстве адыгрывае шчырасць. Каб Дамян быў іншы, ён знайшоў бы сапраўдных сяброў, адданых людзей. Але «ён жыве сам і ў таямніцы перад усім светам». Хочацца крычаць, за што ён нясе такую пакутлівасць у сваім жыцці. За якія паступкі, ён не які-небудзь крыміналіст, хуліган, які б хаваўся ў гарадскім натоўпе. Мо' такое пятно дала яму вёска, у якой не мог лічыць на спачуванне, ці праз жонку?

Ды не, бо: «І так вось жыў бы сабе Дамян у Старой Вёсцы, аж да смерці, знаходзячы ў вясковым грамадстве падпору свайго існавання» — піша Ул. Паўлючук. Дамян не ведае, хто яму дапамог бы. Але як хтосьці казаў: «Калі ты ў няшчасці, нясі яго людзям напаказ — яны цябе не пакінуць у бядзе». Дамян відавочна гэтага пазбягаў. І тут не згаджаюся з дыскутантам Уладзіславам Дваракоўскім, што паўлючукоўскі герой кліча на дапамогу, хоча паказаць людзям сваё гора. Тады, сапраўды, «не туды дарога». Гэта замкнуты ў сабе і для сябе чалавек. У такім значэнні самалюб — больш згодны я. Герой артыкула «Мары аб свеце адзіноцтва» ў жыцці ідзе паўз жыццё, паўз грамадскага жыцця. Яму сяброўскі круг не адпавядаў. Ці ж так «салёнымі» былі на яго вясковыя бабскія плёткі, вясковыя традыцыі ці абрады? Дамян, гэта незвычайны чалавек у тым значэнні, што як бы не яму суджаны і вясковыя традыцыі і ўсе праявы тых ці другіх абрадаў.



 




ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 4 (365) 24 студзеня 1965 года



* * *

Вось і зіма,
А мроіцца, што лета
Прыйшло у цвеце ліп,
І грэчка расцвіла.
Здаецца мне —
Выходжу росным следам
У паплавы суседняга сяла.

А за акном лютуе завіруха
І на сумёт накручвае сумёт,
На шыбах снег ляжыць іскрыстым
пухам,
А ў хаце пахне грэчкай чысты мёд.

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

# Самае галоўнае

Жыў на свеце хлопчык Андрэйка. Ён усяго баяўся, — сабак, кароў, гусей, мышэй, павукоў і нават пеўняў. Але найбольш за ўсё ён баяўся чужых хлапцоў.

Аднойчы мама сказала яму:

— Ой, як дрэнна, што ты ўсяго баішся! Толькі адважныя людзі добра жывуць на свеце. Толькі яны перамагаюць ворагаў, гасяць пажары і смела лётаюць на самалётах. І за гэта ўсе іх любяць. А з баязліўцаў людзі смяюцца. І ад гэтага жыццё іх робіцца дрэннае і сумнае.

Андрэйка так адказаў сваёй маме:

— Ад гэтае пары, мама, я пастанавіў быць адважным чалавекам.

З гэтымі словамі Андрэйка пайшоў на панадворак. А там хлопцы гулялі ў футбол.

— Эй, вы, хлопцы! Я сёння не баюся вас!

Хлопцы здзівіліся, што Андрэйка так адважна да іх крыкнуў. Яны нават спачатку падумалі, што ён нешта задумаў супроць іх, і хацелі пайсці. Але адзін з іх пацягнуў Андрэйку за нос, а другі сцягнуў у яго з галавы шапку. Трэці ўдарыў яго. І Андрэйка з плачам вярнуўся дамоў.

— Мама, я сёння быў адважным, але з гэтага нічога добрага не выйшла, — сказаў ён, выціраючы слёзы.

— Дурненькі, — адказала мама. — Недастаткова быць толькі адважным. Трэба яшчэ быць дужым і моцным.

І тады Андрэйка ўзяў бабуліну палку і пайшоў з ёю на двор. На двары хлопцаў ужо не было. Там сядзеў чорны сабака, якога Андрэйка заўсёды баяўся.

Размахваючы палкай, ён сказаў сабаку:

— Паспрабуй брахаць на мяне, дык дастанеш.

Сабака пачаў брахаць і кінуўся на Андрэйку.

І Андрэйка з плачам пабег дамоў. Выціраючы слёзы, ён сказаў маме:

— Мама! Што ж гэта такое? Я сёння быў дужы і адважны, але з гэтага нічога не выйшла.

Мама сказала:

— Мала быць адважным і дужым. Трэба яшчэ думаць. А ты паступіў па-дурному. Ты размахваў палкай і гэтым раззлаваў сабаку. Ты сам вінаваты.

Андрэйка сказаў сваёй маме:

— Цяпер я заўсёды буду думаць, калі што - небудзь здарыцца.

І вось Андрэйка зноў пайшоў пагуляць. На двары не было ні хлопцаў, ні сабак. Ён выйшаў на вуліцу, каб паглядзець, дзе хлопцы. А хлопцы былі каля рэчкі. І Андрэйка пабег да іх.

І раптам Андрэйка пачуў, як Сашка Палачка пачаў крычаць:

— Ой, ратуйце! Таплюся!

Хлопцы спалохаліся і пабеглі клікаць дарослых. Андрэйка хацеў скочыць у ваду, каб ратаваць Сашку,



але потым падумаў: «Я дрэнна плаваю і ў мяне не хопіць сіл, каб выратаваць Сашку».

А ля самага берага стаяла рыбацкая лодка. Андрэйка адпіхнуў лодку ад берага, а сам скочыў у яе. А ў лодцы ляжалі вёслы. Андрэйка пачаў біць вёсламі па вадзе. Але ў яго нічога не выйшла: ён не ўмеў грэбсці. Цячэнне аднесла рыбацкую лодку на сярэдзіну ракі. І Андрэйка са страху пачаў крычаць. А па рацэ плыла ўжо другая лодка. Гэтыя людзі выратавалі Сашку, а потым дагналі рыбацкую лодку, узялі яе на буксір і прыцягнулі да берага.

Дома Андрэйка сказаў маме:

— Мама, я сёння быў адважны, я хацеў выратаваць хлопчыка. Я быў разумным, бо не кінуўся ў ваду, а паплыў на лодцы. Я сёння быў дужы, таму што адпіхнуў цяжкую лодку ад берага і цяжкімі вёсламі біў па вадзе, але ў мяне нічога не выйшла.

Мама сказала:

— Дурненькі мой! Я забылася табе сказаць самае галоўнае. Мала быць адважным, разумным і дужым, трэба яшчэ мець веды. Трэба ўмець грэбсці, плаваць, ездзіць вярхом на кані, лётаць на самалёце. Трэба шмат ведаць. Трэба ведаць арыфметыку і алгебру, хімію і геаметрыю. А каб усё гэта ведаць, трэба вучыцца. Хто вучыцца, той бывае разумным. А хто разумны, той павінен быць адважным. А адважных і разумных усе любяць.

Андрэйка сказаў:

— Ад сённяшняга дня я буду усяму вучыцца.

І мама сказала:

— Вось і добра.


М. Зошчанка



## КУТОК ГУМАРУ




## А★Д★Г★А★Д★А★Н★К★А

### ЗАГАДКІ

Усе адказы на загадкі, змешчаныя ў левым слупку, канчаюцца літарай К, а тыя, што ў правым слупку, пачынаюцца літарай К.

Адгадай загадкі і правільна запішы на іх адказы.

1. Ляжыць калода пасярод балота, не гніе і не сохне.

2. І нажом зразалі, і дротам вязалі, а ён дык не плача, па падлозе скача.

3. Без акон, без дзвярэй поўна хата людзей.

4. Маленькі караблік туды-сюды хістаецца, з трубы стужка завіваецца.

5. Мае звонкі галасок, усіх склікае на ўрок.

6. Не брэша, не кусае, а ў хату не пускае.

7. За ўсіх птушак ён чарней, чысціць поле ад чарвей.

8. Ляціць. — пішчыць, сядзе — маўчыць, хто яго заб'е, сваю кроў пральe.

9. Круглы, малы, а за хвост не падымеш.

10. Па полі ходзіць, сам жне і малоціць.

11. Стаіць певень над вадою з чырвонаю барадою, хто не ідзе, за бараду ўшчыпне.

12. Не куст, а з лісточкамі, не кашуля, а сшыта.

13. Без крылаў ляціць, без голасу свішча.

## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

**Новапароджаны блакітны кіцёнак важыць больш за дарослага слана — каля 5 тон.**

*

**Самымі высакагорнымі істотамі з'яўляюцца павукі, якія могуць жыць на вышыні 7.500 метраў. Яны харчуюцца тым, што занясе ім вецер. Птушкі могуць жыць на вышыні да 4 500 метраў, некаторыя віды матылёў — на вышыні 6 000 метраў.**

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | | | | |
| 2 | | | | | | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | | | | | | |
| 4 | | | | | | | | | | | | |
| 5 | | | | | | | | | | | | |
| 6 | | | | | | | | | | | | |
| 7 | | | | | | | | | | | | |


Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka"

**21 студзеня 1924 года памёр Уладзімір Ільіч Ленін — правадыр рускага і сусветнага пралетарыяту.**




Зіма была снежная. Снег заваліў усю Маскву. Высокія сумёты ляжалі на вуліцах, плошчах, дварах. Яго не прыбіралі і не вывозілі за горад. Ляжаў да вясны. У той звычайны, будзённы для Леніна дзень снег пачаў ісці з самага ранку. Ён сыпаў і сыпаў пушыстымі камякамі, зацярушваў усе дарогі, сцежкі. А чацвёртай гадзіне снег так густа пачаў сыпаць, што ў кабінеце адразу пацямнела. Тады Ленін выпростваецца, пацёр рукой лоб, вочы і адкінуўся на спінку крэсла. Ад стомы закружылася галава, жоўтыя кругі паплылі перад вачыма.

Пасядзеўшы так некалькі хвілін, Ленін згарнуў на стале паперы і прыціснуў іх ножніцамі і прэсам. Падняўся з-за стала, паглядзеў у акно. Увесь Крэмль быў белы — дахі, музейныя гарматы каля Арсенала, людзі, што ішлі з горада ў Саўнарком... Нават чорная галка, якая сядзела на карнізе будынка Арсенала, таксама была белая.

Потым Ленін выйшаў у пакой, дзе працавала сакратар Саўнаркома.

— Лідзія Аляксандраўна, — сказаў ён. — Я нешта сябе неважнецкі адчуваю. Трохі прайдуся.

Ён апрануўся і выйшаў. На вуліцы ад бялізны снегу зажмурыўся. Снег у гэтыя хвіліны нечакана перастаў ісці, і скрозь рэдкае сіняватае воблачка слаба прасвечваўся расплывісты круг сонца.

Ленін ішоў павольна, глыбока дыхаючы, засунуўшы рукі ў кішэні паліто. Дайшоў да Тайніцкіх варот, вярнуўся. Паглядзеў на карніз будынка Арсенала, дзе ўсё яшчэ сядзела галка, зацярушаная снегам, і неўзабаве пачуў дзіцячы гоман. Усміхнуўся і накіраваўся ў сад.

Там, разбіўшыся на дзве групы, гулялі ў снежкі дзеці. Мяжой, якая раздзяляла іх, была пратаптаная між дрэў сцежка. Потым адразу ўсе змяшаліся ў адзін гурт, і нельга было разабраць, дзе свае, дзе чужыя. Шпурлялі — абы ў каго трапіць. Толькі адзін карапуз — год шэсць-сем — стаяў убаку, ляпаў у ладкі і крычаў:

— У дзяўчынак кідайце! Ніне за каўнер насыпце!

Ён быў у доўгім са зборамі на спіне кажушку, падшытых валёнках, даўгавухай шапцы. Не хлопчык, а мужычок з нагаток.

(Працяг на стар. 7)



(Працяг са стар. 2)

— Ніне за каўнер! Ніне... — чуўся яго пісклявы галасок.

Потым і ён не вытрымаў, схапіў камяк снегу, падскочыў да дзяўчынкі з касой, відаць, да той самай Ніны, і сыпнуў ёй прама ў рот.

— Захарка! — пагразіла кулаком Ніна, выплёўваючы снег. — Вось табе!

А Захарку ўжо нельга было стрымаць. Ён разышоўся, быў цяпер у самай гушчыне і даставалася яму больш за ўсіх. Ды ён і не супраціўляўся. Уцягнуў у каўнер галаву, закрыў рукавіцамі твар — і біце, колькі хочаце.

Калі ж ад Захаркі адступіліся, ён адкрыў твар і жаласна пачаў прасіць:

— Ну, кідайце, ну біце. Ніна, кінь у мяне.

Леніну і смешна, і шкада стала Захарку. Ён нагнуўся, узяў жменю снегу, і не камечучы, кінуў у хлопчыка. Захарка — у Леніна, Ленін яшчэ раз кінуў у Захарку.

І толькі цяпер дзятва звярнула ўвагу на нейкага дзядзьку. Стаіць гэты дзядзька і гуляе з Захаркам у снежкі. Адзін міг — і град снежак пасыпаўся ў яго. Ленін падняў каўнер, глыбей насунуў шапку і закрычаў:

— Захарка, ратуй!

Захарка падбег да Леніна, замахаў рукамі:

— Не трэба ў дзядзьку. У мяне кідайце.

На бок Леніна перайшла Ніна і яшчэ некалькі хлопчыкаў.

Зноў стала два лагеры. Зноў паляцелі насустрач адзін аднаму дзесяткі снежак. Твары ва ўсіх чырвоныя, радасныя. Расчырванеўся і Ленін.

— Мабыць, хопіць, — падняў ён руку. — Вайне — канец. Мір і перадышка.

— Яшчэ! — не згадзілася дзятва.

— А ўрокі як? Зрабілі? — спытаў Ленін.

У адказ закрычалі:

— Зрабілі ўрокі, давайце яшчэ гуляць.

Ленін дастаў з кішэні гадзіннік, адкрыў вечка.

— Вы гуляйце, а мне трэба ісці.

Вярнуўся Ленін у свой кабінет з румянцам на ўсе шчокі. На шапцы і паліто пацеркамі блішчэлі кроплі растаўшага снегу. Быў ён узбуджаны і шчаслівы.

— Цудоўна адпачыў, — пахваліўся ён Лідзіі Аляксандраўне. — Добрая была прагулка.

І дадаў з прабачальнай усмешкай:

— Вы, калі ласка, заўтра напомніце мне аб прагулцы. А чацвёртай гадзіне. З рабятамі паабяцаў сустрэцца.

У той дзень аж да поўначы гарэла святло ў яго кабінеце. Ленін працаваў. Іншы раз ён адрываўся ад папер, азіраўся на акно, і ветлівая ўсмешка кранала яго вусны.

**Васіль Хомчанка**







# Камар лазню тапіў...

**Народная песня**




Камар лазню тапіў,
Муха парылася.

**Прыпеў:**
Дылі, дылі, го-ца-ца,
Ой дыль-дыль-дыль го-ца-ца!

З паталка звалілася,
На смерць забілася.

Прыпеў.

Блыха добрай была,
Запрагае ката.

Прыпеў.

Едзе ў Мінск да аптэкі,
Каб купіць мусе лекі.

Прыпеў.

Прэ блыха на мышы,
Муха ўжо без душы.

Прыпеў.

Пакуль муху памылі,
Пук лучыны спалілі.

Прыпеў.

Пакуль муху прыбралі, —
Певуны ўжо спявалі.

Прыпеў.

Зайцы яму капалі,
Лісы труну збівалі.

Прыпеў.

Совы муху няслі,
Ваўкі голас вялі.

Прыпеў.

У пясочку хавалі
І памінкі спраўлялі.

Прыпеў.

Вылі ўсе, галасілі,
Год жалобу насілі.

Прыпеў.



## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

### Як Сцёпка ўцёк ад марозу

Мама вярталася з магазіна дахаты. Узышла на двор — бачыць: імчыцца яе Сцёпка, аж снег з-пад ног курыць. Падышла яна бліжэй і пытае:

— Сцёпка, чаго ты так моцна бяжыш?

— Ад марозу ўцякаю.

— Ну і што, уцёк?

— Уцёк.

— Адкуль ты ведаеш?

— Раней было холадна, а цяпер аж горача стала, — адказаў Сцёпка.

**П. Рунец**



### ЯК НАС АЛА ЧАСТАВАЛА

Раз дамоў прыбегла Ала
І адразу — да пліты:
— Я на ўроку вывучала,
Як пячы бліны, тарты.

Мама, дзе наша мука?
Дай мне масла, малака!
Напяку бліноў такіх, —
Праглынеце языкі!

Закухарнічала Ала:
І пякла, і каштавала,
Каштавала, каштавала,
Аж пакуль бліноў не стала.

**Грыцко Бойка**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# СЕНЕГАЛЬСКАЯ ГУТАРКА



Прадаўшчыца карзін на вуліцы.

Адшукаць чалавека ў трохсоттысячным горадзе Дакар (сталіца Сенегала), не з'яўляецца цяжкаю справаю. Даволі напаткаць кагосьці, хто вельмі белы, вельмі тоўсты і з вялікім гарбатым носам — словам, кагосьці з сірыйскіх купцоў. Яго можна смела спытаць пра ўсё, нават пра адрас маткі гадзіннікавага майстра. Атрымаеце ветлівае выясненне, дакладнае і беспамылковае. Прытым, гэты вельмі белы ягамосць запытае, як доўга знаходзіцеся ў Дакары, упэўніцца, ці часамі не маеце чагосьці прадаць... Такім чынам я даведаўся пра сваіх знаёмых у Дакары; расказана мне, якія дочкі, і калі выйшлі замуж, і якія маюць турботы.

...Доктар Г. — сам ён ліванец — але ад дваццаці пяці год пражывае ў Сенегалы. Праўду кажучы, не мае ён ніякіх турбот, але моцна пераймаецца будучыняй сваёй новай айчыны. Яму штораз перабівае жонка, чароўная француска, якая не церпіць ані Сенегала, ані дэ Голя. Доктар наадварот — у дэ Голя верыць, як у Бога, а Сенегал любіць да слёз. Жонка і ён згодны толькі ў адным: у Сенегалы штораз горшы балаган.

— Калі ўдасца «ім» ліквідаваць прэзідэнта Сенгора, будзе пачатак канца...

— Чаму хочуць яго знішчыць?

— Бо ён занадта прафранцузскі і добры чалавек. Як толькі можа, не дае «ім» красці... Сарганізавалі замах на яго асобу, калі ён, Сенгор, адкрыў, што ўкралі чатырыста мільёнаў афрыканскіх франкаў і перахапіў банкавыя пераводы ў Швейцарыю... Пане мілы, тут крадуць аж шуміць. Такі міністр аховы здароўя купляў дамы, аўтамашыны, жонкі, а ў бальніцах працаўнікам не плачана, хворыя не мелі чаго есці... Усё раскрадаюць яны ..

— Яны, гэта хто такія?

— Вярхушка,ураднікі, пагулянка...

Пасля абеду мне давялося пагутарыць з адным з той «пагулянкі». Трыццацігадовы, апрануты паводле апошняй парыжскай моды, Серэр, які закончыў парыжскі Калеж, працуе цяпер на пасадзе саветніка. Зарабляе 118 тысяч афрыканскіх франкаў у месяц. Калі я спытаў яго, чым ён займаецца, Серэр сказаў не маргнуўшы вокам: «Падрыхтоўкай рэвалюцыі».

Сядзім у ціхай і халоднай кафейцы, але мне пачынае рабіцца горача, сціраю рукавом пот з ілба, крадком паглядаю на бакі.

Сенегал з'яўляецца краінаю, у якой асноўным таварам ёсць, так званыя, фісташкі. У паважным гандлю фісташкі завуць арахідамі. Вырабляецца з іх каштоўны алей, макуху, харчы людзям і жывёле. Францыя купляе сенегальскія арахіды па пастаянных, гарантаваных цэнах — звычайна, вышэйшых чым цэны на сусветным рынку. Такім чынам, Францыя ўспамагае сваю былую калонію, дае канкрэтную фінансавую падтрымку рэжыму прэзідэнта Сенгора, гэтага паэта, філосафа і паклонніка дэ Голя. Дзякуючы тым гарантаваным цэнам Сенгора карыстаецца падтрымкаю з боку фермераў, пасрэднікаў і дробных прамыслоўцаў. Вялікія гандлёва - прамысловыя фірмы знаходзяцца ў руках французскага капітала. Трэба дадаць, што Францыя нічога не траціць на гарантаваных цэнах, узамен за гэта трымае ў сваіх руках большасць сенегальскага імпарту, увозіць сюды свае тавары па цэнах вышэйшых чым на сусветных рынках. Паміма развіцця сенегальскай прадукцыі фасфатаў, дастаўкі штучных угнаенняў для сельскай гаспадаркі з'яўляецца недастатковымі. Таму для вырошчвання арахідаў займаецца новыя землі на поўдні краіны, памяншаецца вырошчванне збожжавых культур. Сенегал купляе заграніцаю збожжа, цукар і іншыя прадукты.

— Кеіта, прэзідэнт Малі, — гаворыць Серэр, — зрабіў тое, што можна і трэба зрабіць: адарваўся ад Францыі. Гэта адзінае выйсце...

— Як разумець тое, што вы займаецеся «падрыхтоўкай рэвалюцыі?»

Серэр усміхаецца і ветліва тлумачыць, што проста падрыхтоўвае адпаведную сітуацыю: мы, маладыя, адукаваныя, узаемна падрыхтоўваем адзін другога, пазбаўляем пасад старых...

— Тых, што крадуць? — дагадваюся я і Серэр горача падтакнуў мне.

Серэр гаворыць далей.

— Пакуль што мы лаяльныя Сенгору; ведаеце, паліцэйскі рэжым прымушае лічыцца з ім, гэтым нашым прэзідэнтам, але настане момант, калі мы «навернемся на сваю веру»... зробім парадак пасвойму...

Задумоўваюся, ці вуснамі Серэра, які шэсць год правучыўся і прабыў у Парыжы, гаворыць еўрапейскі цынізм, ці тыповы непазбежны апартунізм слабых і доўга бітых.

(а-ся)

## Успаміны кітайскага імператара

У Пекіне апублікавана кніжку — «Першая палавіна майго жыцця». У ёй спісаў свае ўспаміны апошні імператар Кітая — Ту-і. Нарадзіўся ён у 1906 годзе і праз два гады пасля стаў імператарам Кітая. Пасля дэмакратычнай рэвалюцыі ў 1911 годзе страціў тытул імператара, аднак у гадах 1934—45 быў «імператарам» Манджурыі — марыянеткі ўтворанай японцамі.

Пасля заканчэння другой сусветнай вайны Ту-і быў суджаны. У 1959 годзе звольнена яго з турмы і Ту-і пачаў працаваць, як агароднік у пекінскім заалагічным парку.

Ажаніўся са шпітальнай медсястрою. Цяпер з'яўляецца ён супрацоўнікам пекінскага інстытута літаратурных і гістарычных доследаў. (а-ся)

## ТРЭБА ЧАСЦЕЙ

Група лекараў правяла ў Празе абследванне 450 здаровых мужчын.

У выніку аказалася, што асобы, якія ядзяць толькі два разы ўдзень, маюць у арганізме больш тлушчу і часцей хварэюць на страўнік і кроваабарот; а асобы, якія ядзяць чатыры разы ўдзень, але менш — рэдка хварэюць падобнымі хваробамі. (а-ся)

**Каля 97 працэнтаў сусветных запасаў вады знаходзіцца ў акіянах. Больш двух трэціх усёй прэснай вады на свеце знаходзіцца ў ледавіках. Калі б растапіць ільды Антарктыды, вады з іх хапіла б усім рэкам зямнога шара на працягу 830 год. На здымку бачым ледавыя горы ля берагоў Аляскі. (а-ся)**






**Усё ў парадку. Цяпер, калі з яўкай не надзейна, ёсць дзе правесці рэшту ночы. Дзяменцяў паглядзеў на гадзіннік — хутка пачне развідняцца. Трэба спяшаць.**

**Званок на яўачнай кватэры, відавочна, не дзейнічаў. Дзяменцяў пастукаў. За дзвярыма пачуліся крокі і асцярожны голас:**

**— Хто там?**

**— Адчыніце! — загадаў Дзяменцяў**

**Дзверы прыадчыніліся.**

**— Скажыце, ці не ў вас жыве ваенны лекар Нельке?**

**— Не. У мяне жыве обер-лейтэнант Грым.**

**Дзяменцяў замёр. Пачатак пароля быў правільны, а канец не зыходзіўся.**

**У прыадчыненыя дзверы высунулася сівая галава, і Дзяменцяў пачуў шэпт: «Заўтра на пошце а чатырнаццатай гадзіне...»**

**Дзверы захлопнуліся. Дзяменцяў быстра пайшоў па лесвіцы. Яўка ў руках гестапа. Але тады навошта ім было змяняць пароль? Ці не ляпей было назваць пароль правільна, каб ён увайшоў у кватэру, і там схапіць яго? А мо' яны спярша хочуць прасачыць яго сувязі і спецыяльна для гэтага перакруцілі пароль і цяпер за ім будуць назіраць? А мо' яўка проста ў небяспецы і яе гаспадар дае аб гэтым знаць? Але як ацаніць вызначэнне сустрэчы на пошце?.. Шчырае жаданне гаспадара яўкі?.. Ці гэта зроблена пад дыктоўку гестапа?**



**Дзяменцяў йшоў па вуліцы то быстра, то памалу, ствараючы гэтым цяжкасці для магчымага сачэння. Знарок прайшоў праз два патрулі, карыстаючыся паролям атрыманым ад фельдфебеля. Прайшоўшы патруль, затаіваўся ў нішы варот, чакаў, калі да патруля падыдзе назіральнік. Але ніхто не падыходзіў. Не, за ім не сачылі, і гэта падтрымлівала версію, што заўтрашняя сустрэча на пошце з гестапа не звязана. Так ці інакш, хутчэй у атэль. Трэба адпачыць.**

**Ля пад'езда атэля «Брысталь» цесна збітыя стаялі аўтамашыны. Дзяменцяў увайшоў у вестыбюль. За стойкай парт'е нікога не было.**

**— Хто-небудзь жывы тут ёсць?**

**Выйшаў малады чалавек. Каўзануўшы па Дзяменцяву абыякавым позіркам, ён разгарнуў вялікую кнігу:**

**— Капітан Руперт?**

**— Рукерт! — паправіў Дзяменцяў.**

**— Выбачайце. Трыста пяты пакой. Трэці паверх. Ліфт, выбачайце, не працуе. І, калі ласка, цішэй — там ужо спіць маёр Зандэль.**

**Дзяменцяў памалу падымаўся па лесвіцы, абдумваючы, чым яму можа пагражаць прысутнасць у нумары маёра Зандэля. Маёр спаў. Не запальваючы святла, Дзяменцяў раздзеўся і лёг у ложак. За гадзіну заснуў.**

**Сусед Дзяменцява прачнуўся а восьмай гадзіне раніцы. Ён доўга плёскаўся ў ванне. Потым рабіў гімнастыку. Адзеўшыся, ён мармытаў нешта сабе пад нос. І раптам голасна сказаў:**

**— Калега, так можна праспаць усю вайну!**

**Дзяменцяў расплюшчыў вочы і, убачыўшы маёра, сказаў:**

**— Добры дзень!**

**Маёр засмяяўся:**



**— Дзень сапраўды быццам бы добры! А вось ноч была лютая. Наш атэль не раз падскакваў... Як вы прыйшлі, я ўжо не чуў.**

**— Я прыйшоў на світанні. — Дзяменцяў сеў на ложку і пачаў не спяшаючы адзявацца, разлічваючы, што маёр пойдзе. Але маёр выходзіць не збіраўся. Умыўшыся, Дзяменцяў надзеў кіцель і падыйшоў да маёра:**

**— Давайце знаёміцца — капітан Рукерт.**

**— Маёр Зандэль.**

**Яны паціснулі адзін другому рукі.**

**— Пашлі, капітан, снедаць.**

**Яны спусціліся ў рэстаран. Дзяменцяў напружана абмяркоўваў, як яму весці сябе з Зандэлям.**

**— Вядомы вам, капітан, ваенны геній папярэджваў, што працягласць вайны непазбежна ўступае ў супярэчлівасць са ўсімі яе разлікамі, якія на першых этапах вайны прадказвалі поспех, — сказаў маёр, калі яны зрабілі заказ. — Цяпер мы гэты фактар працягласці перш за ўсё і адчуваем. Ці не так, капітан?**

**Дзяменцяў не адказаў, і за сталом наступіла нязручнае маўчанне.**

**— Я не люблю спешную шчырасць. Пры тым ваенны геній Бісмарка для мяне — усяго толькі гісторыя. Мая вера сёння — геній фюрэра... — ціха і задуменна сказаў Дзяменцяў. Прыкмеціўшы, як пры яго апошніх словах у вачах маёра блiснула трывога, ён, каб крыху супакоіць яго, дадаў: — Я толькі што перажыў трагедыю восьмай дывізіі.**

**— Ах, вы з восьмай? Як жа гэта вы ўцалелі? Дык дывізія, я чуў, знішчана.**

**— Гэта не зусім так, — сумна сказаў Дзяменцяў. — Я вывеў некалькі сваіх хлопцаў, і, як бачыце, выйшаў сам. І прыйшоў сюды, каб расказаць камандаванню, што здарылася з нашай дывізіяй. — Памаўчаўшы, Дзяменцяў дадаў: — І прасіць назначэння. Дарэчы, рэальная гэта справа?**

**— Я сам з такіх, — сказаў маёр. — Але я назна-**

